Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 13 Вільня, Серада, 2-га чэрвеня 1926 г. Год I.

## Пасьля выбарау.

Зусім неспадзявана на выбарах прэзыдэнта 31 мая пры першым жа галасаваньні ў Нацыянальным Зборы атрымаў абсалютную большасьць галасоў *маршалак Пілсудскі*.

Неспадзяваным гэты выбар зьяўляецца для нас не затым, што за Пілсудскага галасавалі прадстаўнікі жыдоўскае і нямецкае буржуазіі ды пястоўцы-кулакі, але затым, што кандыдатуру Пілсудскага выставілі партыі „блёку лявіцы“ з пэпэсамі на чале — *пасьля* таго, што заявіў пан Пілсудскі ў адным з сваіх трох „клясычных“ інтэрвью аб сваей *сацыяльнай праграме*....

Што ў гэтай сваей заяве марш. Пілсудскі сьцьвярдзіў адсутнасьць якой-колечы палітычнай і „мысьлёвай“ розьніцы паміж польскай правіцай і лявіцай, што прызнаў роўным „паскудзтвам“ абедзьве паловы польскіх паслоў у Сойме і Сэнаце,—ну, за гэта йшчэ няма чаго крыўдзіцца паном польскім „сацыялістам“ тыпу Недзялковскіх і Дашыньскіх: бо-ж запраўды немагчыма ўлавіць, дзе канчаецца эндэк і пачынаецца пэпэсавец, ці наадварот. Але розьніца паміж імі істнавала прынамся на паперы—ў *сацыяльнай* праграме.— Цяпер і гэтая розьніца счэзла.

Запраўды-ж, пасьля таго, як пан Пілсудскі з уласьцівай яму шчырасьцяй заявіў, што задачай яго, як прэзыдэнта, будзе абарона істнуючых сяньня ў Польшчы сацыяльных адносінаў—тэй асаблівай „сацыяльнай раўнавагі“, пры якой буржуазія прадстаўляе сабой прэс, пад каторым знаходзяцца сяляне і работнікі,—пасьля гэтага, здавалася-бы, ніводзін сацыяліст, у праграму якога ўваходзе *барацьба* з такой „сацыяльнай раўнавагай“, ня могбы ня толькі прапанаваць кандыдатуру абаронцы сяньняшняга сацыяльнага ладу, але і галасаваць за яго. Партыя Польскіх Сацыялістаў асьмелілася зрабіць і адно і другое, яўна пайшоўшы *насупраць сваей партыйнай праграмы*, яўна паказаўшы, што яе „сацыялістычнае“ сумленьне зусім годзіцца з панаваньнем капіталістаў і абшарнікаў над працоўнымі, бо гэныя капіталісты і абшарнікі — *„свае“, „радзімыя“—польскія*...

Як ні крытычна адносіліся мы да гэных сацыяльных баламутаў працоўных масаў Польшчы, залязаючых і ў нашае Палесьсе ды іншыя беларускія ваколіцы,—навет мы не спадзяваліся ад пэпэсаў такога яўнага адступніцтва ад сацыялістычных ідэалаў. І цяпер можам з поўным правам сказаць, што *ППС запраўды-ж з сацыялізмам нічога супольнага ня мае.*

Але ня меншай неспадзяванкай, як выбар пана Пілсудскага на становішча прэзыдэнта рэспублікі, зьявілася *адмова яго ад гэтага становішча.* У выніку гэтае адмовы маршалак Ратай назначыў новыя выбары прэзыдэнта—ўжо на другі дзень — на аўторак 1 чэрвеня. У мамэнт, калі мы пішам гэтыя радкі, адбываецца новае паседжаньне Нацыянальнага Збору, і вынікі новага галасаваньня нам пэўне ўдасцца зьмясьціць яшчэ ў гэтым нумары. Але хто-б ні аказаўся выбраным, адзін вывад з адбытага галасаваньня мы ўжо цяпер можам зрабіць.

Вывад наш—той, што на выбарах прэзыдэнта ў Нацыянальным Зборы *польскі парлямантарызм даў польскай буржазіі бліскучую перамогу над працоўнымі*—на *соймавым груньце.* Ці гэная перамога такой-жа будзе і *ў жыцьці,* — гэта ўжо другое пытаньне: здрада пэпэсамі інтарэсаў працоўных і пераход іх у лагер абаронцаў панаваньня буржуазіі толькі дапаможа працоўным знайсьці сабе належны шлях і ўзяць правільную лінію ў змаганьні за свае ідэалы, належнае ім мейсца ў бацькаўшчыне.

# Выбары Прэзыдэнта.

## Прэзыдэнтам выбраны праф. Мосьціцкі— кандыдат маршалка Пілсудскага.

### Галасаваньне 31-га мая.

Пасьля адчыненьня маршалкам Ратаем сходу і выбару прэзыдыуму, Нацыянальны Збор прыступіў да выбару прэзыдэнта рэспублікі.

Былі пададзены дзьве кандыдатуры: **пэпэсы** выставілі кандыдатуру **Марш. Пілсудскага**, эндэкі — пазнанскага ваяводы **Бніньскага.**

Пры падачы галасоў беларускія і украінскія дэпутаты заявілі, што яны ад учасьця ў выбарах устрымліваюцца. Тое-ж заявілі: польскі клюб Незалежнай Хлопскай Партыі і камуністы.

Пасьля падлічэньня галасоў аказалася, што Маршалак **Пілсудскі** атрымаў **292 галасы,** — знача абсалютную большасьць. Ваявода **Бніньскі** атрымаў толькі **193 галасы.** Пустых галасоў (белых картачак) пададзена **61.**

Гэтак выбар паў на Марш. Пілсудскага.

### Адмова марш. Пілсудскага.

Калі марш. Ратай разам з прэм'ерам Бартэлем прыехалі да марш. Пілсудскага паведаміць аб выбары яго на прэзыдэнта, марш. Пілсудскі заявіў, што **выбару ня прыймае** і ад становішча прэзыдэнта адмаўляецца. Пры гэтым марш. Пілсудскі аддаў на рукі марш. Ратая пісьмо гэткага зьместу:

### Пісьмо марш. Пілсудскага.

„Пане Маршалку! Дзякую Нацыянальнаму Збору за выбар. Другі раз у маім жыцьці маю гэткім спосабам залегалізаваньне маіх дзеяньняў і гістарычных прац, якія, на жаль для мяне, спатыкаліся сьпярша з адпорам і няпрыхільнасьцяй даволі шырокай. У кожным разе дзякую ўсім паном, што выбар мой ня быў аднагалосны, як гэта здарылася ў лютым 1919 году: мо менш у Польшчы будзе здрады і фальшу.

„На жаль, прыняць выбару я ня маю магчымасьці. Я ня здолеў вываяваць сабе забыцьця, ня здолеў выдабыць з сябе акту даверыя і рашыцца—адносна да тае працы, якую ўжо раз рабіў, ані да тых, што мяне на гэтае становішча заклікаюць. Лішне крэпка стаіць мне ў памяці трагічная постаць забітага прэзыдэнта Нарутовіча, якога я ня здолеў усьцерагчы ад жорсткага лёсу. Лішне моцна дзеець на мяне грубая напасьць на маіх дзяцей.

„Не магу не адзначыць яшчэ раз, што ня здолею жыць без беспасрэднае працы, а істнуючая канстытуцыя якраз такую працу адсоўвае і аддаляе ад прэзыдэнта. Залішне многа мусіў-бы я мучыцца і ламаць. На гэта патрэбен іншы характар.

„Перапрашаю за расчараваньне, якое зрабіў ня толькі тым, што за мяне галасавалі, але і тым, што па за гэтай саляй ждалі гэтага ад мяне. Сумленьне, да якога я звярачаўся тысячу разоў, у апошнія дні не дазволіла мне здаволіць гэтыя пажаданьні. Яшчэ раз дзякую за выбар і прашу ўраз-жа, дай Бог шчасьліва, зрабіць выбары прэзыдэнта Рэчыпаспалітай“.

(—) *Язэп Пілсудскі.*

### Галасаваньне 1-га чэрвеня.

Выстаўлены тры кандыдатуры: **праф. Ігната Мосьціцкага** (рэкамэндаванага **марш. Пілсудскім**), дэпутата **Марка** (П. П. С.) і Пазнанскага ваяводы **Бніньскага** (эндэка).

Пры першым галасаваньні Мосьціцкі атрымаў 215 галасоў, Бніньскі — 211, Марэк — 56. Пустых картачак пададзена 63.

З прычыны таго, што ніхто з кандыдатаў не атрымаў абсалютнае большасьці, галасаваньне было паўторана, пры чым кандыдатура Марка адпала. Паміж астаўшыміся двума кандыдатамі галасы падзяліліся гэтак:

Мосьціцкі — 280 галасоў
Бніньскі — 200 „
Такім парадкам

**выбраны за Прэзыдэнта праф. Мосьціцкі.**

## Новы этап у разьвіцьці польскага „парлямантарызму“.

(*„Маланкавая“ кандыдацкая прамава Маршалка Пілсудскага перад сваімі выбаршчыкамі — пасламі і сэнатарамі*).

29-га траўня ў гмаху Прэзыдыуму Рады Міністраў прэм. Бартэль запрасіў павадыроў усіх **польскіх** клюбаў Сойму і Сэнату, каб даць магчымасьць марш. Пілсудскаму высьвятліць, як ён глядзіць на сваю кандыдатуру дый наагул на справу выбараў прэзыдэнта Нацыянальным Зборам.

Трэба прызнаць, што марш. Пілсудскі запраўды-ж высьветліў справу так, як можа не зрабіў гэтага ніколі ні адзін кандыдат перад сваімі выбарцамі. П. Пілсудскі перад усім заявіў, што ня зьбіраецца казаць кандыдацкую прамову, але хоча высьветліць свой асабісты пагляд на справу выбараў.

Аб „выпадках у траўні таксама развадзіцца ня будзе“,—бо „рабіў усё сам — у згодзе з сваім сумленьнем, дык — ня бачыць патрэбы даваць аб гэтым камусьці нейкую справаздачу“.

„Галоўнай прычынай сучаснага палажэньня ў Польшчы, ці—убогасьці ды бяды краю,—слабасьці вонкавай і ўнутранай краю — былі зладзействы ды надужыцьці адзінак і партыяў, якія заўсёды аставаліся бяскарнымі“.

„У адраджонай дзяржаве не зрабілася адраджэньня духа народу“.

Атрымаўшы ад паўстаньня Польшчы „ўладу, якой ніхто ў Польшчы ня меў“, Пілсудскі паверыў у адраджэньне народу, дык „не жадаючы ўпраўляць пры помачы бізуна, ён аддаў уладу створанаму ім Сойму, якога мог і ня склікаць“...

„Аднак народ не адрадзіўся. Наадварот—лайдакі ды сволач распаношыліся ў Польшчы“.

У выніку аддачы ўлады Сойму — пачаліся „пастаянныя спрэчкі асабістыя і партыйныя, нейкае дзіўнае панаваньне бруду, нейкай бязчэльнай лайдацкай перавагі прадажнага элемэнту“. „Інтэрэсы партыяў панавалі над усім“.

Усіх трох прадстаўнікоў Польскай Дзяржавы цкавала гэтае лайдацтва Сойму і Сэнату. „Мяне, Начальніка Дзяржавы, абкідалі брудам ды брахнёй, але я ня ўпаў — таму, што я мацнейшы за вас усіх“. „Другога—Нарутовіча—папросту забілі, і маральныя спраўцы забойства асталіся бяскарнымі. Трэці, Войцеховскі, упаў пад цяжарам мук, з прычыны Сойму і Сэнату“.

„Цяпер,—казаў далей марш. Пілсудскі, — варункі зложыліся так, што я мог-бы не дапусьціць вас, мае паночкі, да салі Нацыянальнага Збору, начхаўшы на вас усіх... Але я раблю яшчэ **апошнюю спробу** — ці можна яшчэ правіць у Польшчы бяз бізуна“...

„Я не хачу рабіць на вас націску, але перасьцерагаю вас: памятайце, што Сойм і Сэнат—гэта ўстановы, якія найбольш зьненавіджаны ў краі“.

„Рабіце яшчэ раз спробу — выбірайце, каго хочаце, — вольнасьць выбараў будзе гарантавана. Але прэзыдэнт **павінен быць вольны ад усялякіх абязацельстваў перад партыямі,**—прадстаўляць **увесь народ.** Калі не паслухаеце мяне, дык — ведайце, што **тады я ня буду бараніць Сойму і Сэнату, калі дойдзе да ўлады вуліца“.**

„Я абвясьціў вайну ў Польшчы сволачы, лайдакам, забойцам і зладзеям, пад тэрорам якіх ня будзе больш урадаў у Польшчы, і—ад гэтай вайны я не адступлю“. „Сойм і Сэнат маюць залішне многа правоў ды прывілеяў. Трэба, каб і тыя, хто закліканы да ўрадаваньня, таксама мелі крыху ўлады. Дык—парлямант павінен—**адпачыць.**

„З маей кандыдатурай рабеце, што хочаце. Мне зусім усё роўна, сколькі галасоў я атры-

маю—2.100 ці 200. Выбірайце толькі — **беспартыйнага і дастойнага кандыдата**". „Калі ж ня зробіце гэтага, як я кажу, дык, выбачайце, — для вас будзе ўсё у чорных калёрах, а для мяне—прыкра"— бо „паўтараю—не хацеў-бы правіць бізуном".

„Баюся, што пасьля выбару прэзыдэнта ўсё пойдзе **пастарому**. Баюся, што Сойм захоча астацца. А трэба, каб паны пайшлі сабе на якісь час адсюль—бо-ж мусіць стацца нешта новае". „Хай Прэзыдэнт нейкі час ня мае Сойму на карку". Трэба ўраду даць свабоду працаваць. „Бо не хацеў-бы я, каб мне пасьля рабіліся закіды, што я не давёў да канца распачатай працы, дый — што бізун ня сьвістаў на вуліцах".

---

Скончыўшы гэтую запраўды-ж нячуваную „агітацыйную" прадвыбарную прамову, кандыдат у прэзыдэнты, параіўшы сваім выбаршчыкам-паслам і сэнатарам — „падумаць аб усім выслуханым дый — пагаварыць аб усім паміж сабой", пакінуў іх, зрабіўшы на іх, як пішуць газэты, — „вельмі моцнае ўражаньне".

Прамова п. Пілсудскага да паслоў і сэнатараў будзе ня поўная, калі не падамо аднэй з яго „гутарак" з прадстаўніком газэты „Kurjer Poranny" трэцяе ўжо па ліку. Вось галоўныя думкі і пагляды марш. Пілсудскага на тое, які павінен быць урад у Польшчы.

„Урад павінен быць моцны". „Урад павінен мець магчымасьць хуткіх рашэньняў—у патрэбны для справы мамэнт". Але дзеля таго трэба перадусім, каб урад быў твораны Прэзыдэнтам, а ня Соймам,—„ня шляхам соймавых нарадаў клюбаў, партыяў, гурткоў і гурточкаў ды іх умоваў".

Цяпер ясна, чаму п. Пілсудскі адмовіўся тварыць габінэт, прапанаваны яму, як пэпэсамі, таксама і—Вітасам згодна з істнуючай Канстытуцыяй,—а пайшоў навет простым міністрам у габінэт, які ён сам, як фактычны дыктатар, даручыў стварыць Бартлю.

Урад у Польшчы не павінен быць залежны, бо гэтая залежнасьць ад Сойму, ад соймавых групаў і ўмоваў між імі, не дае ўраду ані магчымасьці ані часу працаваць. Урад павінен быць залежны — ад Прэзыдэнта. Вось галоўная думка Пілсудскага.

Але і гэтага мала. **Урад ня можа навет складацца з паслоў**. Чаму? — Таму, што „дэмакратыя палягае на выразнай адказнасьці міністраў", а пасла-міністра — ня можна, як „безадказнага па суду да канца мандату",—аддаць пад суд за надужыцьці...

Бо-ж ясна, што пасла-міністра ня выдадуць суду сваі-ж калегі-паслы! Дык перадусім трэба разьбіць гэтую кругавую паруку безадказнасьці парляманцкіх урадаў...

Гэта ўжо крыху больш, як „крытыка", ці „крызіс" парлямантарызму!

П. Пілсудскі наагул, відаць, адкідае ня толькі **гэты** нязадольны да працы Сойм, але адкідае Сойм наагул, як нешта маючае запраўдную сілу і голас у Польшчы. „Дэмакратычная адказнасьць" перад парлямантам самастойнага ўраду, створанага Прэзыдэнтам і фактычна адказнага тольлі перад ім, — зводзіцца да нуля. Паводле п. Пілсудскага Сойм павінен быць чымсь кшталтам фашыстаўскага „парляманту" ў Італіі, ці — „Государственной Думы" пры Сталыпіне...

Наагул усе разважаньні п. Пілсудскага аб парляманьце на зьдзіў падобны да знамянітых прамоваў Сталыпіна ў расейскай Думе... А ўжо зусім—па-сталыпінску гучыць—канцавая пагроза Пілсудскага Сойму і Сэнату, дзе ён „выражае надзею, што—для ўхіленьня новага, значна вастрэйшага крызісу—Сойм і Сэнат... ня будуць наражаць сябе і край на новую спробу, трымаючыся далей сваіх—благіх звычаяў і абычаяў пасольскіх і сэнатарскіх".

---

Дзіўная рэч: лаючы ды шальмуючы самыя ўстановы Сойму і Сэнату, лічучы іх гэткімі шкоднымі дый прынамся не патрэбнымі па сутнасьці, п. Пілсудскі аднак-жа чамусьці лічыць патрэбным, каб яны аставаліся на мейсцы без усялякіх пераменаў, толькі зрабіліся — „маральнейшымі". Лаючы паноў паслоў ды сэнатараў—бяз розьніцы партыяў, п. Пілсудскі выстаўляе кандыдатуру сваю на прэзыдэнта, які будзе выбірацца **гэтымі-ж пасламі і сэнатарамі гэтага-ж Сойму**...

Але-ж для ўсяго таго, аб чым кажа п. Пілсудскі, мала зрабіць „маральную рэвалюцыю": трэба зрабіць яшчэ і „палітычную"... Сучасная польская Канстытуцыя трымае пад замком прэзыдэнта, ці то будзе Пілсудскі, ці хто іншы, дый гэты Сойм, а пэўна-ж і ўсякі іншы, усё роўна ня зробіць з сабой таго „харакіры", якога дамагаецца ад яго п. Пілсудскі.

Дык ясна, што адзін выхад — ламаць далей **фактычна** гвалтам тую Канстытуцыю, якую ўжо раз зламала, але чамусьці не да канца—„маральная рэвалюцыя" Пілсудскага...

Інакш кажучы: трэба рабіць так, як рабілі Мусоліні ці Сталыпін, Пангалос, ці Рывэра...

## Пілсудскі і нацыянальныя меншасьці.

На „канфэрэнцыю" марш. Пілсудскага ня былі запрошаны прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў, ну і, ведама-ж, камуністы.

Жыдоўскія паслы Сойму, якія ўжо згары, хаця і ня усё, аддалі свае галасы марш. Пілсудскаму, абразіліся за гэта. Тады адзін з найбольш „пілсудскіх" паслоў Сойму п. Косьцялковскі вытлумачыў паслу Грюнбаўму гэтае недапушчэньне меншасьцяў, асабліва жыдоў—неабходнасьцю „ўнутраных высьвятленьняў"...

З гэтага цікаўнага тлумачэньня — ясна, што новыя паны палажэньня, наладзіўшыя „канфэрэнцыю", лічаць, зусім, як і старыя, што—меншасьці не ўваходзяць у тое „ўнутранае палітычнае ядро", дзе павінны адбывацца тыя ці іншыя важныя „высьвятленьні" аб лёсах Польшчы...

Ці крыўдзіцца гэтым таксама і іншым **тэрытарыяльным** меншасьцям?! — Зусім не! Яны-ж бо маюць абавязак клапаціцца перадусім аб **сваім** краю,—ня кажучы ўжо аб тым, што ўсё, што сказана было на „канфэрэнцыі" моцнага і „прыемнага", запраўды-ж адносіцца толькі і выключна да палякоў, як сцьвярдзіў і сам пасол Косьцялковскі. — Усе гэтыя гутаркі аб „сволачы, лайдаках, зладзеях, забойцах" і г. д. — запраўды-ж — зьяўляюцца „ўнутраным высьвятленьнем" толькі і выключна для польскіх клюбаў Сойму і Сэнату...

А ўсё-ж абмінаньне п. Пілсудскім нац. меншасьцяў—вельмі характэрна і вельмі красамоўна. Яшчэ больш красамоўнай з гэтага пункту гледжаньня зьяўляецца дэклярацыя ягонага калегі па габінэту—міністра унутраных спраў.

Пан Млодзяковскі зрабіў журналістам „экспозэ" сваей палітыкі, заяўлаючы ў ім паміж іншым, што ў адносінах да меншасьцяў п. міністар настроены „лібэральна", але — асьцярожна... „Найбольш уступак гаспадарчых, але найменш — палітычных і культурных"... Гэтыя апошнія ўступкі ці падачкі павінны быць, паводле пана былага Палескага ваяводы,—„розна адмерываны ў залежнасьці ад меншасьці і тэй тэрыторыі, якую гэта меншасьць займае".

„Слушныя пажаданьні, зразумела, будуць трактатваны праз урад прыхільна"...

Дзякуем!—Чулі тое-ж самае—ад Скульскага і Рачкевіча...

# Водгукі перавароту.

### „Аўтаномія" Пазнаншчыны.

Міністар унутраных спраў заявіў, што—„урад беспасярэднага ўплыву на Пазнаншчыну мя мае. Але ўрад стараецца, каб Пазнань прынамся не зачыняла граніцу для вывазу жыўнасьці ў Верхнюю Сілезію, дзе ад гэтага расьце дарагоўля, якая адбіваецца і на росьце цаны сілезскага вугальля, што ўжо крыўдзіць увесь край...

Гэткім чынам бяссільле варшаўскага ўраду над Пазнаншчынай—сцьверджана афіцыяльна.

### Трыумфальнае спатканьне „ўрадавых войск" у Пазнані.

Што такое ў Польшчы яшчэ толькі „пачалося", аб гэтым ярка гаворыць тое, што ўсё яшчэ пішацца дый робіцца ў Пазнаншчыне, дзе засеў, маючы сваю „аўтаномную" адміністрацыю дый сваё „дзельніцовае" войска, — увесь штаб польскай правіцы...

Паслухайце, як сустракалі пазнанскія канфэдэраты „вернае праваітаму ўраду Вітаса" войска, вярнуўшаеся з-пад Варшавы.

Ня будзем апісываць усей урачыстасьці, прывядзём толькі прамовы павадыроў—ваенных і духоўных.

Камандзір Пазнанскага ваеннага Округу ген. Гаўзэр (які амаль не забіў ген. Сосноўскага) — „вітаючы вяртаючыхся з бою пад Варшавай жаўнераў, ад усяго сэрца дзякаваў ім — у імя Айчыны—за спаўненьне жаўнерскага абавязку". „Нагародай вам хай будзе сьведамасьць, што вы датрымалі сьвятую прысягу, якую далі Богу й Айчыне".

Біскуп Лукомскі „з узварушэньнем і ўдзячнасьцю вітаў жаўнераў за тое, што яны ўратавалі гонар вялікапольскіх (пазнанскіх) войск. Найвышэйшай сьвятыняй для жаўнера ёсьць прысяга. І вы—споўнілі яе"...

Пасьля гэтага параду ўсё насяленьне, сабраўшыся на плошчы места, зрабіла маніфэстацыю ў чэсьць пазнанскіх уладаў... Качалі, насілі на руках ген. Гаўзэра, Галера, Довбор-Мусьніцкага, Марш. Сэнату Тромпчыньскага, ваяв. Бніньскага і інш.

Урачыстасьць закончылася ведамым гімнам польскім: „Ешчэ Польска не згінэла". Яшчэ ня зьгінула Польшча Вітаса і Гломбіньскага, ня гледзячы на „дыктатуру Пілсудскага", — як слушна вераць пазнанскія канфэдэраты. Можа, найбольш цікаўным была прысутнасьць на ўрачыстасьці — **францускага і чэхаславацкага консулаў**.

### Што пішуць у Пазнанскіх газэтах.

„Варшавянка" разаслала „бясплатным дадаткам" 2 нумары „Пазнанскага Дзеньніка", які дае вельмі цікаўныя прыклады настрояў у гэтай ўсё-ж яшчэ „аўтаномнай правінцыі" Польшчы, ня прызнаўшай адбыўшагася вайсковага перавароту...

Цікаўна гэта асабліва дзеля таго, што ўся правіца і па-за Пазнаншчай мысьліць і чуе так сама, але толькі, ведама-ж — баючыся канфіскаты ды суду, маўчыць.

Паслухайце-ж, вось — перадавіца ў № за 26 траўня пад загалоўкам: „Згроза" (страшэнства):

„П. Пілсудскі, павадыр бунту і замаху стану, разліцьця братняй крыві, зламаньня вайсковай прысягі, аружнага гвалту над прэзыдэнтам Рэспублікі,—мае быць...

Кім?

Прэзыдэнтам Рэспублікі, выбраным Нацыянальным Зборам у Варшаве...

Вестка гэтая напоўніць жахам усіх у Польшчы, хто шануе закон, чэснасьць і прысягу!"

І далей ідзе ядавітае разумаваньне: чаго-ж варта будзе прэзыдэнцкая прысяга п. Пілсудскага, які, сам вайсковы, ня толькі не датрымаў сам, але і змусіў жаўнераў зламаць дадзеную імі прысягу...

Дзеля гэтага газэта радзіць п. Пілсудскаму— „не перацягіваць струны"... Бо „чэснае грамадзянства Пазнані можа ня вытрымаць"...

У іншым мейсцы марш. Пілсудскага называюць „шалёным блюзьнерцам", дый яшчэ шмат чаго, што навет мо і небясьпечна перадрукоўваць...

### „Зладзеі дзяржаўных грошы", ці — „заслужаныя абаронцы закону і Канстытуцыі"?

„Маральная рэвалюцыя" ў Польшчы зусім ужо пазбавіла адну палову польскага грамадзянства магчымасьці разумець другую. Падзел ці раскол ідзіе ўсё глыбей ды глыбей, і — няма ўжо магчымасьці, (каб гэтага навет захацеў сам Пілсудскі!) — стрымаць шпарка бягучую ў глыбіню лінію гэтага расколу.

У апошняй сваей размове ў „Кур. Поран." марш. Пілсудскі заявіў, што „з запраўднай прыемнасьцю аддаў пад суд" — пакуль-што яшчэ толькі трох генералаў-казнакрадаў...

Газэты зараз-жа падалі падрабязныя весткі аб тых надужыцьцях, у якіх абвінавачываюцца гэтыя генаралы: Розвадовскі, Загурскі і Язьвіньскі.

Усе гэтыя генаралы, якіх Пілсудскі загадаў судзіць, як звычайных угалоўных праступнікаў, абвінавачываюцца ў тым, што рабілі „надужыцьці сваей улады дзеля сваей карысьці, ды на шкоду дзяржаўнага скарбу", — што прадугледжана рознымі артыкуламі Карнага Кодэксу.

Але-ж тыя-ж генаралы якраз былі правадырамі ды камандзірамі ўсей акцыі ваеннай абароны ўраду Вітаса пад Варшавай...

Дык „Дзеньнік Пазнаньскі" папросту не знаходзіць слоў, каб закляйміць „шалеючы" ў Польшчы мілітарыстычны тэрор „перамогшых" (чужаслоў газэты) бунтаўшчыкоў, якія імсьцяцца цяпер на заслужаных генаралах за іх спраціўленьне ваеннаму бунту"...

Ген. Розвадовскі — адзін з „найслаўнейшых штабоўцаў", „абаронца Львова проці збунтаваўшыхся ўкраінскіх войск", „у арміі Пілсудскага быў яе мозгам", якому пад Кіевам Пілсудскі хацеў аддаць галоўнае камандаваньне.

І вось, гэты заслужоны ў Польшчы генарал— разам з двума другімі—„высылаецца у... польскую Сібір—на „Усходнія Крэсы", у Віленшчыну, — на самаволю Рыдза-Сьміглага, як прысуджаныя на катаржныя работы"...

Праўду сказаць, абарона генаралаў з боку пазнанскай газэты ня вельмі пераконываючая—бо можна быць „слаўным штабавіком", атрымліваць розныя „ордэры" і біць украінцаў, а пасьля ўсяго гэтага—красьці ў штабах, „спачываючы на ляўрах" заслужанага патрыёта... Але праўда і тое, што не адны толькі правіцовыя генаралы кралі; толькі-ж—ці пасадзяць і іх на лаўку падсудных побач з Розвадовскімі перамогшая ў Польшчы „маральная рэвалюцыя",—гэта яшчэ—вельмі вялікае пытаньне...

### Ці быў напад фашыстаў на дом п. Пілсудскага ў Сулеювку?

Варшаўская апазыцыйная (правая) прэса зьмяшчае вельмі цікавы ліст жыхараў мяйсцовасьці Сулеювку, дзе жыў марш. Пілсудскі праз увесь час да перавароту. У лісьце тым мяйсцовыя жыхары пішуць, што **ніякага нападу на дом ня было**, бо яны не маглі не заўважыць, калі-б напад быў дакананы...

З другога боку ў Варшаве ходзе чутка, быццам „напад" быў зроблены самымі стральцамі-пілсудчыкамі—толькі дзеля таго, каб пачаць даўно падрыхтаваную, можа навет і проці яўнай волі самога марш. Пілсудскага,—акцыю...

„Напад" удаўся на славу, войска, вернае Пілсудскаму, ускалыхнулася... Дык урэшце ўжо і самаму маршалку, ня было ходу назад... „Шлях законны быў зачынены",—як сцьвярдзіў сам пан Пілсудскі прэзыдэнту Войцеховскаму...

## Да Сяброў Т-ва Беларускае Школы.

Гэтым Цэнтральная Беларуская Школьная Рада просіць паважаных Сяброў Таварыства паклапаціцца ўнесьці ў касу Таварыства належныя Сяброўскія складкі.

УВАГІ: 1) Тыя Сябры, якія маюць акрэсьлены заробак, згодна пастановы Агульнага Сходу Сяброў Таварыства 15. XI. 1925 г., уносяць 1 процант месячнага заробку, а тыя сябры, якія ня маюць акрэсьленага заробку, уносяць ня меньш як 50 грош. у месяц. 2) Грошы прымаюцца ў Школьнай Радзе (Віленская вул. № 12—6) ад 9 гадз. раніцы да 12 гадз. дня.

**Цэнтр. Белар. Школьная Рада**
**Вільня, Віленская 12—6.**

28 траўня 1926 г.

